# МАЛАДЫ АРАТЫ

ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

Орган ЦКЛКСМБ






Народны Камісар па Вайсковых і Марскіх Справах СССР

М. В. ФРУНЗЭ.



№ 8 1925 г.

# МІХАЙЛА ВАСІЛЕЎ ФРУНЗЭ.

Міхайла Васілёў Фрунзэ радзіўся ў 1885 г. ў павятовым гарадку Прышпэкэ, Джэтысуйскае вобласьці. Туркестанскай рэспублікі.

Бацька яго—па пахаджэньню селянін Хэрсонскай губэрні, па нацыянальнасьці—абрусеўшы малдаванін. Пасьля вайсковай службы застаўся працаваць фэльчарам у Туркестане, дзе і жыў увесь час. Матка паходзіць з сялянак Варонескай губэрні.

Першапачатковую асьвету тав. Фрунзэ атрымаў у гарадзкой школе, а потым у гімназіі ў гор. Верным (цяпер Алмата), якую з посьпехам скончыў у 1904 г. Матэрыяльныя ўмовы існаваньня сям'і, у сувязі са сьмерцю бацькі, які сканаў у той час, калі тав Фрунзэ было толькі 12 год,—былі вельмі дрэнныя і яму з малых год трэба было *зарабляць урокамі кусок хлеба сабе і сям'і* Пасьля аканчэньня гімназіі тав. Фрунзэ паступ ў у Ленінградзкі Пол тэхнічны Інстытут.

Першае знаёмства з рэволюцыйным рухам т. Фрунзэ набыў яшчэ ў гімназіі, дзе прымаў удзел у гуртках самаасьветы. З пераездам жыць у Ленінград уступіў у социял-дэмократычную партыйную організацыю і зараз-жа прымкнуў да бальшавікоў, на чале якіх стаяў т. Ленін. З 1904 г. т. Фрунзэ ўжо прымае актыўны ўдзел у дзейнасьці розных бальшавіцкіх організацыях. Да гэтага часу адносіцца яго першае *баявое хрышчэньне*, як удзельніка вялікай рэволюцыйнай дэмонстрацыі ў Ленінградзе, на якой яго арыштавалі і выслалі з гораду.

Тав. Фрунзэ быў адным з кіраўнікоў і організатараў вядомай Іванава - Вазьнясенскай забастоўкі 1905 г.

У пачатку 1907 году, калі царская ўлада, задушыўшы рэволюцыю 1905 г., пачала сваю расправу з рабочай клясай і яе правадыром—партыяй бальшавікоў, т. Фрунзэ заарыштоўваецца ў гор. Шуя (Іванава-Вазьнясенскай губ.). Абвінавачвалі яго спачатку ў тым, што ён лічыцца членам *бальшавіцкай партыі* і прыгаварылі на 4 гады катаржных работ. Будучы ўжо на катарзе т. Фрунзэ нанова прыцягваецца да суду па справе ўзброенага непаслушэнства паліцыі. Царскі вайсковы суд прысудзіў т. Фрунзэ да *сьмертнай кары*. Гэты прыгавор а мяняецца галоўным вайсковым судом, дзякуючы таму, што суд ня меў абаснаваных дакумантаў аб удзеле Фрунзэ ў гэтай справе.

Справа была перададзена на новы разгляд. Назначаецца новы суд, які прысуджвае т. Фрунзэ да сьмертнай кары з заменаю шэсьць год катаргі. Гэтыя „6 год“ Фрунзэ павінен быў адбыць *апрача ранейшых 4-х.*

У канцы 1914 г. Фрунзэ выходзіць на пасяленьне ў Іркуцкую губэрню. Але хутка, летам 1915 г., зноў *заарыштоўваецца за ўтварэньне організацыі катаржнікаў*. Ня сеў ён у турму таму, што ўцёк, пасьля чаго жыве нелегальна пад прозьвішчам В. Г. Васіленка ў Забайкальскай вобласьці. Разам з другімі таварышамі ён організуе бальшавіцкі тыднёвік *„Восточное Обозрение“* і робіцца яго рэдактарам.

З праведаньнем аб гэтым жандарамі, т. Фрунзэ ўцякае ў Расію. Тут пад прозьвішчам „Міхайлава“ паступае на службу ў Усерасійскі Земскі Саюз і працуе на Заходнім фронце аж да рэволюцыі 1917 г. У час прабываньня на Заходнім фронце т. Фрунзэ працуе над організацыяй *падпольных рэволюцыйных груп.* Да лютаўскай рэволюцыі Фрунзэ стаіць на чале падпольнай рэволюцыйнай організацыі, цэнтр якой быў у *Менску*, а часткі гэтай організацыі ў 3-яй і 10-ай арміях Зах. фронту.

З пачатку лютаўскай рэволюцыі т. Фрунзэ робіцца адным з выдатных кіраўнікоў рэволюцыйнага руху на *Беларусі* і на *Заходнім фронце.* У Менску ён кіруе разбраеньнем царскай паліцыі і жандараў і займае пасаду начальніка грамадзянскай міліцыі. Пасьля лютаўскай рэволюцыі ён організуе ў Менску Савет Рабочых Дэпутатаў і працуе пастаянным членам яго выканкому: організуе па ўсёй Беларусі Саветы *Сялянскіх Дэпутатаў*, праводзіць два зьезды беларускіх сялян і выбіраецца на пасаду старшыні савету Сялянскіх Дэпутатаў Беларусі і старшыні яго выканкому. На Ўсерасійскі зьезд Сялянскіх Дэпутатаў тав. Фрунзэ едзе дэпутатам ад Сялянскіх Саветаў Беларусі.

У красавіку 1919 году, калі калчакоўская армія дасягла вялікай сілы наступленьня на Савецкую Расію, калі вялікая пагроза глядзела ў вочы Казані, Сімбірску і Самары, т. Фрунзэ быў назначан *камандуючым* чатырмя арміямі паўднёвага вучастку Ўсходняга фронту. Тут Фрунзэ організуе і робіць моцны ўдар калчакоўскаму флангу, які наступаў з Бузулука. Гэты ўдар аслабіў армію Калчака і яна вымушана была адступаць.

Пры наступленьні на Уфу, у час пераправы праз раку Белую, тав. Фрунзэ быў кантужан бомбай, якую кінуў вораг з самелёту. Але, ня гледзячы на гэта, наступленьне было ўдачнае. Фрунзэ атрымлівае ордэн Чырвонага Сьцягу.

З лютага 1920 г. па жнівень т. Фрунзэ працуе ў Туркестане і кіруе опэрацыямі па зьнішчэньню сямірэчанскага белагвардзейскага фронту. З канца жніўня, у час паўстаньня рэволюцыйнага народу Бухары, які скінуў эміра, т. Фрунзэ з часьцямі Чырвонае арміі дапамагае замацаваньню рэволюцыйнае ўлады і разам з паўстаўшымі ачышчае маладую рэспубліку ад белагвардзейскіх войск.

У верасьні 1920 г. тав. Фрунзэ назначаецца камандуючым арміямі Паўднёвага фронту супроць Урангеля. За пасьпешную пабеду урангелеўскіх войск Фрунзэ атрымоўвае ад УЦВК *рэволюцыйнае ганаровае аружжа*: шашку з ордэнам, портрэтам К. Маркса з адпаведным надпісам.

Будучы кіраўніком усімі войскамі Украіны, у часе ліквідацыі пятлюраўшчыны і махноўшчыны, ён атрымлівае два разы параненьне ў правы бок. Яго шынэль прастрэльваецца 7 кулямі і толькі выпадковасьць абараняе яго жыцьцё.

Тав. Фрунзэ зьяўляецца членам ЦК РКП (б), ЦК КП (б) У і членам прэзыд. ЦВК СССР.

26 студзеня 1925 г. тав. Фрунзэ назначаецца ЦВК СССР *Народным Камісарам Вайсковых і Марскіх Спраў і Старшынёй Рэвваенсавету СССР.*

Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі.

# МАЛАДЫ АРАТЫ

Орган ЦК ЛКСМБ.
Двухтыднёвая часопісь Сялянскай Моладзі.

№ 8 | Ліпень 1925 г. | Менск



## Комсамол, узмацняй абарону СССР.

### Артыкул сэкратара ЦК ЛКСМБ і рэдактара „Мал. Аратага“ т. А. Самахвалава.

Сучаснае міжнароднае становішча прымушае нас трымаць нашу ўвагу на абароне Савецкіх краін.

Заграніцаю вядзецца кампанія ўсякае хлусьні супроць Савецкага Саюзу і Комуністычнага Інтэрнацыяналу. Так, англійскія паны (лорды паіхнему) фабрыкуюць фальшывыя дакумэнты, якія мусяць паказаць, нібы мы гатовім у Англіі паўстаньне. Баўгарская буржуазія даводзіць, нібы Савецкі ўрад праз сваіх агітатараў узрывае бомбамі цэрквы і г. д. А за гэтым шумам мы бачым сьпешнае ўзбраеньне буржуазных армій, павялічэньне вайсковых заказаў, павялічэньне выдаткаў на арміі.

Румынія, напрыклад, закупіла ў Польшчы 40.000 вінтовак і 42 мільёны патронаў і вядзе перагаворы з Амэрыкаю, каб купіць яшчэ 20 мільёнаў патронаў. Польшча заказала на францускіх заводах 3 мінаносцы і 6 падводных лодак. Маленькая дзяржава Эстонія і тая пазычае ў Англіі на вайсковыя патрэбы 10 мільёнаў рублёў. І такіх фактаў даць можна яшчэ шмат. Звычайна, злодзей, калі бачыць, што яго ловяць, крычыць: „трымай злодзея!“ У апошнія месяцы з боку нашай суседкі Польшчы мы бачылі ўзброеныя напады на нашу тэрыторыю, бачылі спробу пашчупаць нас штыком, паглядзець на нашу моц. Ня трэба казаць, супроць каго ўзбрайваецца буржуазія. Мы добра ведаем, што Савецкі Саюз—бяльмо ў ваччу капіталістых і што ўсякія нашы посьпехі па адраджэньні гаспадаркі выклікаюць у іх жаданьне задушыць нас вайсковай сілай.



Старшыні ЦВК Саюзу ССР.
Наверсе: (зьлева на права) тав. Чарвякоў, Калінін, Пятроўскі.
Унізу: тав. Мусабекаў, Хаджаеў і Аптакоў.

Загэтым пытаньнямі абароны Савецкай Рэспублікі, узьмацненьня Чырвонай арміі мы павінны заўсёды цікавіцца. Мы павінны зрабіць усё тое, каб забясьпечыць нашу мірную працу. Магутнасьць Чырвонай арміі, яе непарушнасьць ужо сама па сабе будзе адбіваць ахвоту ў нашых ворагаў лезьці да нас. Мы павінны быць упэўнены, што Чырвоная армія справіцца з усякай вайсковай



задачай, якая ёй выпадзе. А дзеля гэтага трэба, каб усё савецкае грамадзянства і комсамол у тым ліку прынялі шырокі ўдзел у вайсковым будаўніцтве.

Чым-жа комсамол можа дапамагчы Чырвонай арміі і выканаць сваю задачу? Перш за ўсё гэта даць арміі, марскому і паветранаму флёту добрага чырвонаармейца, які сваёю дысцыплінаванасьцю, сваім культурным разьвіцьцём, палітычным выхаваньням быў-бы прыкладам для ўсяе беспартыйнае масы чырвонаармейцаў. Тых, каму трэба ісьці ў Чырвоную армію ці ва флёт, кожная комсамольская організацыя павінна добра падгатаваць. Яны загадзя павінны азнаёміцца




Што павінна ведаць моладзь.

з тымі патрабаваньнямі, якія яны знойдуць у Чырвонай арміі. Прышоўшы ў Чырвоную армію, комсамольцы на цэлую галаву мусяць быць вышэй іншых чырвонаармейцаў сваёю падгатаванасьцю.

На ўсіх 560 тысяч чырвонай арміі цяпер прыходзіцца 70 з лішкам тысяч комсамольцаў (больш за 12 проц.). Гэтыя лічбы гавораць, што ў вайсковым жыцьці комсамол шмат чаго можа зрабіць, калі ён за гэту справу возьмецца і да яе будзе падгатаваны.

Адносна тэрыторыяльных частак, альбо міліцыйных, як у нас іх завуць, комсамолу асабліва многа трэба зрабіць. Наша армія ўсё больш робіцца тэрыторыяльнай. Нават наша мэта ўсю сыстэму абароны Савецкіх Рэспублік пабудаваць на тэрыторыяльным прынцыпе. Ужо цяпер тэрыторыяльныя часткі займаюць вялікае месца ва ўсёй сыстэме Чырвонай арміі.

А тэрыторыяльныя часткі будуюцца перш за ўсё на допрызыўнай падрыхтоўцы. Чым лепш праведзена допрызыўная падрыхтоўка, тым больш здольнасьці да бою мае тэрыторыяльная частка.

Комсамол павінен прыняць самы актыўны ўдзел у наладжаньні допрызыўных і тэрыторыяльных збораў, абсталяваньні допрызыўных пляцовак. Комсамол павінен зрабіць усё магчымае, каб кароткія часы збору поўнасьцю скарыстаць дзеля вайсковай вучобы.

Па ўсёй Беларусі нам трэба раскінуць сетку вайсковых куткоў пры хатах-чытальнях, народных дамох, клюбах. У гэтых кутках рабоча-сялянская моладзь павінна пазнаёміцца з Чырвонаю арміяй, з вайсковай літаратурай і г. д. Праз гэтыя куткі рабоча-сялянская моладзь павінна сачыць за тым, што робіцца ў справе вайсковай абароны СССР.

Трэба ўзяцца за шырокую організацыю спортыўных і вайсковых гурткоў. У гэтых гуртках весьці падрыхтоўку моладзі да арміі. Пашырэньню спорту на вёсцы трэба аддаць больш энэргіі і комсамольскага запалу, чым, напрыклад, некаторыя комсамольцы аддаюць барацьбе з крыжамі на могілках. Справу спорту ў нас лічаць дзіцячай забаваю. Трэба зрабіць пералом у настроі сялян, каб спорт займаў у нас належнае яму месца.

Організаваць вайсковы гурток, пры жаданні, справа лёгкая. З дапамогаю чырвонаармейскай часткі альбо міліцыі можна зладзіць невялічкі гурток хлапцоў, у якім навучыць іх абыходзіцца з стрэльбаю, разьбіраць і складаць яе. У гарадох трэба пашыраць стралковы спорт. (Менск ужо організаваў яго ў адным з сваіх раённых клюбаў).

Будучая вайна—вайна ў паветры, вайна газамі. Ведаць умовы гэтай вайны, ведаць, як абараняцца ад газаў,—абавязак комсамольцаў, асабліва на Беларусі, якая больш другіх краін не забясьпечана ад газавай вайны. Гэтыя веды трэба пашыраць і сярод беспартыйнай моладзі і нават дарослых. Гурткі Авіяхіму па некаторых раённых організацыях КСМ адышлі ў задворкі. Іх трэба зрабіць месцам, дзе мы таксама зможам падрыхтаваць моладзь да службы ў Чырвонай арміі і наогул да вайны.

Вось некалькі практычных заданьняў КСМ ў справе вайсковага будаўніцтва. Трэба ва ўсёй працы, правадзімай Чырвонай арміяй, даваць ёй дапамогу, уцягваць у гэту дапамогу больш шырокія масы моладзі, дапамагаць ваенізацыі тылу, пачынаючы з сваіх комсамольскіх радоў.

# Да прыёму ў авіа-школы.

Бяз добрага лётчыка няма моцнага паветранага флёту.

Пабеда ў будучых войнах будзе належаць той дзяржаве, якая будзе мець наймацнейшы паветраны флёт і добры склад лётчыкаў.

Зараз на тэрыторыі СССР праводзіцца шырокая кампанія па ўкомплектаваньню вайсковых вучэбных устаноў, а ў тым ліку і вышэйшых вучэбных устаноў паветранага флёту.

Авіахім зацікаўлен у тым, каб склад паветранага флёту быў цьвёрдым і моцным ва ўсіх адносінах. Авіахім разам з комсамольскімі організацыямі павінен пасылаць у авіа-школы самых вытраманых, самых актыўных таварышоў. Кожны кандыдат павінен будзе ўсебакова праверан, і толькі тады, калі ён на ўсе 100 проц. будзе адказваць належным запатрабаваньням, яго можна пасылаць у школу.



У гэтым вучэбным годзе камандыроўкі будуць давацца толькі ў вайскова-тэорытычную школу. Гэта школа мае гадзічны курс, дае тэорытычную агульна-вайсковую, авіацыйную і палітычную падрыхтоўку, знаёміць сваіх курсантаў з майстэрнямі і курсам руленьня (кіраваньне самалётам на зямлі).

Усе месцы ў авіа-школы аддадзены Авіахіму СССР, які разьмяркоўвае іх паміж сваіх рэспубліканскіх, абласных і губэрскіх організацыях. Першы вялікі набор адбудзецца ў верасьні бягучага году. Да гэтага часу неабходна правесьці шырокую падрыхтоўчую працу.

Набор будзе рабіцца ў такім парадку: сябра Авіахіму, які жадае паступіць у авіа-школу, падае заяву ў сваю організацыю Авіахіму. Організацыя Авіахіму на мясцох утварае адборачныя комісіі пад старшынством сэкратара мясцовага Авіахіму з аддзелам прадстаўнікоў партыйных, комсамольскіх і профэсыянальных організацый. Адабраныя гэтай комісіяй кандыдаты праходзяць мэдыцынскае абсьледаваньне, пасьля чаго патрэбны лік пасылаецца на распараджэньне Управы Вайсковых Паветраных Сіл адпаведнай вайсковай акругі, дзе яны праходзяць акружную адборку. Кандыдаты, якіх адабрала акружная комісія, накіроўваюцца ў школу, дзе праходзяць цэнтральную комісію.

Магчыма, што некаторых т. т. такая адборка застрашыць, але трэба зразумець, што мы будзем рабіць вялікую памылку, калі будзем вучыць тых асоб, якія ня змогуць выканаць будучых заданьняў.

Тым т. т., якія будуць паступаць у авіа-школы, прад'яўляюцца наступныя запатрабаваньні:

1. Узрост ад 18 да 23 год.
2. Поўнае фізычнае здароўе.
3. Агульна-асьветная падрыхтоўка за II-ую ступ. АПШ, Рабфак, школу фабзавуча і тэхнікуму.

**Лётчык М.**

# ЛІТАРАТУРНЫ АДДЗЕЛ.

## 1905 *)

## А ў рабочай сям'і.

—Мамка, мамачка! чаму таты дагэтуль у хаце няма? а? мамка? чаму?—пытаў лежачы ў ложку хлапчук з блакітнымі вочкамі, з сьлязінкамі на іх.

Зваць хлопчыка—Ігналя, а матка высокая худашчавая кабеціна, трымаючы на руках маленькае дзіцянё, ня ведала, што й адказаць. Яна раней за Ігналю разважала, перадумвала...

—Дзе Якім? Што сталася з ім? Як пашоў на фабрыку з ранку, так і запрапасьціўся.

Чула яна сёньня нейкія стрэлы, чула слова для яе мала зразумелае: ні-то—рэлюцыя, ні-то—рэволюцыя, але што ж з таго? Жывучы ля самага Камароўскага балота, шмат чаго ведаць ня зможаш. Ды прытым няпісьменнаю была, а муж—як прыдзе да хаты, дык пра справы хатнія пагутарыць трэба, пра хлеб, які заўтра есьці будуць—дзе там весьці гутаркі пра рэволюцыю, політыку разводзіць...

—Таты, пытаеш, чаму няма?—у раздуменьні, запытаньнем на запытаньне пачала весьці гутарку з Ігналем. Прыдзе, дзетачка! Тата прыдзе!.. А ты сьпі,—і, сеўшы на ложак каля Ігналі, матка пачала калыханку...

Мітусілася ў вочах Агаце, што Якім прышоў да хаты, штодзенную гутарку весьці пачаў пра запасы на зіму, пра адзеньне... Чамусьці ўспомніліся ёй тыя дзянькі, калі жыла яна ў вёсцы дзяўчынкай, з якой радасьцю яна выходзіла замуж за любімага ёю працавітага Якіма... як жыць пачыналі, як яны пераехалі ў горад на заработкі .. Якім паступае на фабрыку... ну й ляціць час... мінула ўжо столькі год з тых часоў, колькі год Ігналю...

Зморанаая хатняй працай за дзень, Агата ўздрамнула.

Тук-тук-тук!—пастукаў нехта ў дзьверы.

Чулая Агата быццам і чакала гэтага часу. Рванулася з ложка, выскачыла ў сенцы.

—Хто ідзе?—запытала.

—Я...—з-за дзьвярэй пачуўся працяжны голас Якіма

—Ты, Якім?!

—Я...—зноў пачулася і змоўкла.

Агата адчыніла дзьверы.

Адчыніўшы, угледзела седзячага на мокрым ад асеньняга дажджу ганку Якіма.

—Ну, ідзі ў хату!

Адказам на гэта было працяжнае—„Ня маю сілы"...

Агата спужалася. Узяла пад пахі. Натужылася. Падняла... увяла. Паклала на ложак. Якім быў бляды, дрыжэў, бы ліст асіны; нейкі срабрыстажоўты адценак на твары яго быў.

—Я ранены. Во дзюрка. Пагледзь...—ледзьледзь прагаварыў Якім. Узяў руку Агаты, прыклаў да грудзей.

—Але нічога. Да хаты я неяк прышоў. Іншыя дык сьмерць сустрэлі. А я, як пачуў нешта цёплае—кроў з пляча, наўцекі кінуўся. Да гэтага амаль-што часу ў памыйнай яме сядзеў. Каля мяне сядзеў нейкі хлапец... кроў цякла па твары яго... у галаву, значыць, нацэлілі... пасядзеў... і сканаў...

Якім, адкінуўшы галаў, высулупіў язык. Відаць было, што справа сур'ёзная.

Агата з заплаканымі вачмі спаліла жмут суровых нітак і попелам з-пад іх пакрыла ўзарванае куляй месца. Крыві было мала чамусьці. Пачуцьцё пакінула Якіма. Прабудзіўся і Ігналя. Убачыўшы каля сябе бацьку, прывычна за нос цягаць пачаў. Але што гэта? Бацька не бярэ ў абдымкі Ігналю, не цалуе, як звычайна. Зьдзіўлены Ігналя яшчэ больш пачаў тузаць бацьку.

—Тата, татацка, ты сьпіс, тата!—не супакойваўся Ігналя.

Ці чуласьць дзіцяці блізкасьць сьмерці, ахвота выказаць усё, што здарылася, абудзіла Якіма. Ён прачнуўся.

—Дай вады!—абдымаючы Ігналю, Якім да Агаты зьвярнуўся.

Напіўся.

—...А я, як толькі зьвечарэла, з гэтай памыйніцы вылез... стрэлы ўжо змоўклі былі... толькі на вуліцах казакі ды вураднікі на конях гойсаюць... Памаленьку і да хаты дабраўся...

Ігналя ўпяршыню чуў такую гутарку; новай для яго яна была, а Якім працягваў:

—Пашоў я з ранку на фабрыку... прыходжу... стаіць фабрыка... дый рабочыя на дварэ. „Хадзем, кажуць, рэволюцыю рабіць"—узялі ды пашлі... Выходзім з брамы, аж два жандары ня пушчаць... мы ў браму, а яны з коньмі на нас... падскочыў нехта з рабочых... як рвануў за нагу аднаго, дык з каня звалаклі... Другі плёткай адбівацца пачаў... раз па сьпіне мне як ахне!.. Эх! думаю, не дажджэш біць мяне... схапіў за нагу, звалок з каня... а ён... падла, выхапіў рэвольвэр ды як стрэліць... так Пётру Будзька проста ў галаву... І пашлі мы на Саборную, адтуль... каля турмы... на Віленскі вакзал... а там...

Зноў змоўк Якім, заместа слоў—хрыпота вырвалася.

Ноч атуліла горад. Прыціхла ўсё. Толькі ў такіх хатах, як хата Якіма, гарэлі газьнічкі, чуліся стогны, енкі, лямант.

Недзе закукурэчыў певень. А на гарадзкой вежы прабіла: раз... два... тры...

Якім сканаў. Асталіся пры нічым Агата, шасьцігадовы Ігналя ды малое дзіцянё.

Што-ж, на белым сьвеце і такія неяк жывуць, перабіваюцца...

**Іл. Барашка.**

*) Гл. „М. А." № 7.

# ВЕРШЫ.

Я. Журба.

## Песьня маладога аратага.

Золак зьзяе. Ціха ў полі.
Ў небе чутны дзіўны хор.
Я з вясёлай песьняй волі
Выяжджаю на прастор.

Раньніх птушак прывітаньне,
Песьні, працу і зямлю
І вясеньняе сьвітаньне—
Як-жа моцна я люблю!

Малады і здольнасьць маю,
Сілы, гарту ў мяне шмат;
Для карысьці свайго краю
Працаваць заўсёды рад.

Я пяшчаныя загоны
Добра, тлуста угнаю;
Ўзыйдуць добрыя тут плёны,
Як старанна абраблю.

Гэй, мой конік, на разлогі!
Варушыся хутка, брат!
Нашы новыя нарогі
Ў полі зробяць добры лад.

На дзярністых на палетках
Новай долі чую дух.
Мне ня грозна праца ўлетку:
Рэжа ёмка скібы плуг.

Я працую бяз прынукі
Ад зары і да зары.
Больш ня будзе ўціску, мукі:
Мы жыцьця гаспадары!..

Золак зьзяе. Ціха ў полі.
Ў небе чутны дзіўны хор.
Я з вясёлай песьняй волі
Выяжджаю на прастор.

С. Шушкевіч.

## Вечар.

Вецер крыльле гульнёю намуляў
І заснуў недзе ў жыце зялёным;
Сонца захад агнём атуліла,
Хмарцы вышыла бераг чырвоны.
Рожкі выставіў месяц араты,
Што на небе нязначна барозьдзіць,
І на зорку кідае пагляды,
Што над пушчаю цёмнаю ходзіць.
Ахінуўшыся сівым туманам,
Жабім квокатам стогне балота,
А агоньчык лявоніху скача
Пад вясёлую песьню блазноты.
Яны ў кусьцях шурпатай лазіны
Разьвясёлы начлег пачынаюць.
А у шэрынкай вёсцы ў лагчыне
Комсамолка частушку сьпявае...

* *
*

Гора мне крыльле змачыла
Яшчэ у калысцы лубовай
І вясёласьць смуткам акрыла,
Схаваўшы ў трунку ялову.
Я думаў, з-пад жоўтага жвіру
Ніколі яе не дастаці,
Што нуднай я песьні ня кіну,
Што ноч вечна будзе снаваці.
Аж раптам народ наш заспаны
Сарваў з сонца цемры-заслоны,
І хвалі жыцьця забуялі
Ў шырокім жыцьцёвым прасторы.
І промені яснага сонца
Зрабілі мне крыльле сухімі.
І шчасьце нясецца бязьмерна
Над высахшым морам сьлязьлівым.

М. Залётны.

## На начлезе.

Упрысядкі агонь скача,
Курчыцца, шыпіць;
Сава дзесьці нудна плача,
Лес у цемры сьпіць.
Ля агню гамонак, сьмеху,
Сьвіткі, кажухі,
Песьня разьбяжыцца рэхам
Ў небасхіл глухі.
А высока там угоры
Залатыя дрэмлюць зоры.
Эх, дзяцюк мой басаногі,
З вёскі, на палёх разлогіх,
Песьні гучна ты сьпявай
Пра кастрычнік і пра май.
Я таксама на начлезе
Асалодак п'ю буяны,
Гэтай песьні, што ўсё рэжа
Грудзі ночы шэра-цьмянай.
За кустамі ходзяць коні,
Зоры гымны ночы звоняць.
Эх, дзяцюк мой басаногі,
З вёскі, на палёх разлогіх,
Песьні гучна ты сьпявай
Пра кастрычнік і пра май.



# Алеся.

*Апавяданьне.*

Алеся—дзяўчынка з раздольнага Сожу, з роднай вёскі ў горад заскочыла—грызе цяпер граніт навукі маладымі зубамі. Памятае ленінскія заветы—ленінскім унукам іх перадае.

Паглядзім на Алеську—куды як прыгожа. Ружовая, вясёлая, гібкая, як чарот на возеры. Кудры русыя на твар лезуць, у вочы забіраюцца... І зубы, як у белкі...



Уверсе—самалёты, унізе—агляд лётчыкамі машыны.

Хустачкай чырвонай галава абвязана. На целе фуфайка-вязанка, грудзі і горла абхватвае цесна. Спортсмэнка зусім... А трэба амовіцца, што дужа ахвоча Алеся да фізкультуры... Спраўная. Артыкулы розныя вырабляе—здароўе бароніць, моцы набіраецца.

Інструктар Зяблікаў на ўроку кіруе.

— Выстаўленьне простых рук уперад з выцягіваньнем левай нагі ўверх... Дзелай... ра-а-аз... два... тры-ы...

І Алеська выцягвае „простыя“ рукі ўперад, нагу падымае ўверх і шмат дзіковіных артыкулаў робіць усім на дзіва. А калі скамандвае Зяблікаў:

— Бяго-о-ом... марш!...—бяжыць Алеська, кудламі патрахвае, сьмяецца, вочы шэрыя шчурыць...

А ўвечары, перад пачаткам саюзнага дня, забраўшыся ў куток з Настаю Паўлавай і Марыляй Маразоўскай, раптам песьню ліхую, комсамольскую запяе:

Па марам... па марам—
Сёньня тут, а заўтра там!...

А хлопцы некаторыя на Алесю пазіраюць пільна, думкі хітрыя пра сябе думаюць. Ды толькі Алеська ня згодна на... гэта самае. Сьмяецца нават над каханьнем ды пачуцьцямі ўсялякімі. Гаворыць ім:

— Будзьце сьвядомымі.

---

На вясеньнія супачынкі дамоў сабралася Алеся. З таварышамі, падружкамі сваімі: Настай ды Марыляй, піонэрамі сваімі разьвіталася, пажыткі сабрала, у драбінку скок і ў родныя Вязьмічы гайда, на раздольны Сож!...

Шпарка бяжыць Саўраска. Драбіны па брудкай дарозе грукацяць. А навакол палі—бяз межаў, без канца, бяз краю. А неба блакітнае, маладое. Хмаркі плывуць пушыстыя. Вёсачкі, пралесачкі, курганы шэрыя—шыр-прастор вёрст нямераных.

— Эх, хутчэй-бы, хутчэй дамоў...

---

На другі дзень пасьля прыезду за ваколіцай спатканьне здарылася. Ішла Алеська ў сельсавет, а насустрэчу чырвонаармеец незнаёмы, прыезджы, мусіць... Шлем з чырвонай зьвяздой, шынэль доўгая з „разгаворамі“ на грудзёх чорнымі. Малюнак, а не хлапец. Толькі пазірае неяк усё надта люта, нібы профэсар нейкі.

Сустрэліся ды й разышліся—толькі ўсяго.

У сельсавеце разьведала—Міхаська Шчарбук;

гэта—чырвонаармеец з 53-га палку, у Грачыхі на пабыўку прыехаў.

Старыя Алеськіны не нарадуюцца на дачку. Вось дзеўка, дык дзеўка... Ды толькі нешта клапаціцца яна ўсё, адпачыць нават ня хоча, старых бацькоў пацешыць, жыцьцё сваё ў горадзе расказаць. Не сядзіцца... То сюды ёй трэба, то туды. Шпэктакль нейкі ў вёсцы задумала наладзіць.

А Алеська—нічога! Пакрыквае толькі:

— Даёш!..

І клапоціцца з ранку да вечара, рэпэтыцыі праводзіць, артыстых заганяла зусім, аддыхацца гаротныя ня могуць...

А ў Грачыхах, чуваць, то-ж падобны актывісты зьявіўся: Міхаська Шчарбук. Газэту насьценную выпусьціць уздумаў. Увесь маладняк вясковы ўзбударажыў. Алесю за жывое кранула, узяла гурток МОПР'а організавала. На другі дзень, чуваць, Міхаська то-ж ня сьпіць—даклад аб тэрсыстэме прачытаў, ды як прачытаў—усю грамаду маладую зацікавіў.

Так у двох вёсках сапернікі зьявіліся. Адзін аднаго ня бачаць, а ледзьве пачуюць, што наконта адзін другога, зараз на вус матаюць...

А часы йдуць... Чырванеюць хмары, почкі ліпкія разварачваюцца, вецер вясновы ў полі песьні пяе, словы ціхія нашэптвае і стараму і малому—усякаму сваё—усім для сэрца дарагое, салодкае...

---

П'еса называлася „Мікітаў лапаць“. Вясёлая, жартлівая п'еса. Толькі з гэроем галоўным—Мікітай—дзела швах!.. Ніводнага хлапца няма, каб сыграў добра Мікіту. Білася, білася Алеська—ну хоць вазьмі ды кінь усё. А тут яшчэ ў галаву Міхаська дакучны лезе з газэтай сваёй. І здаецца ёй, што сьмяецца ён губамі сваімі тоўстымі, вачыма сваімі шчурыцца, кучму на галаве ярошыць. Зусім, як гэты Мікіта, разьняшчасны...

— Вось хто-б Мікіту-б сыграў! І голас у яго такі... Здаецца, вось зараз прагнусіць: „А смачныя бліны!..“

Толькі падумала—плян ужо гатоў: пайсьці ў Грачыхі ды ўламаць Міхаську, салдаціка гэтага, узяць роль Мікіты...

Што сказана—тое зроблена. Павязалася хустачкай беленькай, кажушок на плечы накінула, п'есу ў кішэню і пашла. Прашла некалькі крокаў—назад зьвярнулася. Галошы надзець забылася...

Урэшце пашла. У Грачыхі, к Міхаську.

---

А Міхаська—рэдактар важны. Назьбіраў матэрыялу шмат. Цяпер размалёўвае сам газэту. Загаловак выводзіць зацейлівы, а на загалоўку: хлопец маладыя п'е з крыніцы, а над ім надпіс чырвоны пераліваецца, крычыць на ўсе Грачыхі: „Крыніца“... Малюе Міхаська, сьпяшаецца, а сам пра сябе думае:

— Ну й добра-ж выходзе... Ладная газэта будзе... абавязкова!..

Але ў дзьверы хаты нехта: стук, стук...

— Вайдзеце! – басіць Міхаська і валасы на галаве бударажыць дзеля ўнушыцельнасьці.

Уваходзіць Алеся. Ружовая, вясёлая, з ухмылкай на вуснах.

— Будзь здароў...—а галасок нібы ў камара зьвініць.

— Іш ты... пішчыць як,—думае Міхаська і басам услух:

— Што патрэбна, грамадзянка?

А Алеська вачыма так і есьць загаловак... „Крыніца“.

— Гэта ты сам усё? Ай, які цікавы малюнак... Гэта ты масьленымі фарбамі намаляваў?..

Міхаська нездаволена, з усьмешкай губы выпаціў:

— Тожа... разумее дужа... Масьленымі фарбамі.. Зачым прышла?

Сьпяшаючыся, Алеся сыпе, як з меха: і зачым прышла, і чаго жадае, і пра „Мікітаў лапаць“, і пра вечар, і пра ролю.

— Ну, дык як? Згода? Сыграеш Мікіту? А?

Ні гука...

— Чаму ня хочаш?... Чаго!.. Ну і дурань, калі так! Зараза такая... Думае—без яго нічога ня зробім!... Не-а...

Грохнула дзьвярмі і вышла.

---

І зноў пастарому пашло. Ня бачацца Міхаська з Алесяй, а адзін пра другога цікавяцца. Усё сапернічаюць... Алеся піонэрскі атрад організавала, Міхаська—хату-чытальню.

---

Вечар вясеньні, пахам салодкім абвееңы, на сяло нячутна спускаецца. Ружовыя ўзоры на небе расьпісвае, золатам чырвоным захад запальвае. Па вуліцы топкай народ да школы йдзе—і стары і малы. На слупе афішу чытаюць:

> СЁНЬНЯ
> ў памяшканьні вясковай школы
> — упяршыні —
> адбудзецца вялізны
> **ВЕЧАР-СПЭКТАКЛЬ.**
> ПРАДСТАЎЛЕНА БУДЗЕ:
> I. „Мікітаў лапаць“. (Вясёлая п'еса).
> II. Дэкламацыя.
> III. Насьценная і вусная газэта „Крыніца“.
>
> Пасьля розныя гульні,
> іграе духавы оркестр на гармошках.

А ў школе дзівіцца народ на газэту.

— Вось як напісаў... як машынкай... праўда?

— Гэта, хлопцы, ён рукой так... сам бачыў, як Міхаська гэты самы...

— А малюнкі-ж якія... хвароба на яго кішкі... Таксама ён?

— Ну, вядома! Каму-ж яшчэ?..

— Вось, сукін сын!... Каб гэта нам так... а?..

А Міхаська маўчыць. Нават пахвалы яго ня радуюць. Вядома, добрая газэта—вось нават Алеся тады, калі прыходзіла, казала. А ўсё такі яна спрытнейшая... Вось, напрыклад, гэтыя піонэры... каб яны згарэлі!... То-ж яе работа!

— Пайсьці куды, ці што?—пытае Міхась—не, трэба паслухаць п'есу... І чаго гэтыя хлопцы шалёныя ліпнуць да Алесі!..

П'есу падрыхтавалі, як гаворыцца, на яць—стараліся... Затое сыгралі, як ня трэба лепей. Моладзь у ладкі хлопала, крычала, выклікала Алесю.

А на двары—ночка сінявокая... Агоньчыкі па хатках разьбегліся, цені паўзучыя зямлю перарэзалі.

Толькі на сэрцы, нібы істота салодкая... І мутарна і соладка чагось, быццам не дастае чаго, быццам просіць чагось сэрца.

Раптам цень чыйсь ззаду... вялікі, чорны.

— Алеся!..

— Міхась!..

— Адкуль ішла?

— Ды й з дому...

І стаіць Міхаська, губамі шавеліць, а сам зусім новы, інакшы, ласкавы, вочы дабратою сьвецяцца... Ціха так кажа:

— Эх, Алеська, сьмяюся я... ды перастаў...

— Чаму так?

— Не магу больш.

— А раней чаму злы такі быў?

— Ды зайдросьціў табе... спрытная ты...

— Ну-у-у!...

— Права слова!..

А Алеська ня верыць—гаворыць ціха:

— Эх, Міхаська... маніш ты... А мне ўсё так мутарна... Словы са два і то няма каму сказаць... Вось... Змаркоцілася я зусім... Хаця-б у горад хутчэй зьвярнуцца... у пэдтэхнікум...

— Ой, маніш ты сама мне ў вочы!

— Не-е... Міхаська...

— Алеся... Не, не скажу...

— Кажы...

— Алеся... кргм... Не... не рашуся нешта.

— Ну-у... скажы... ну-у...

— Кахаю я цябе, Алесечка... Жыць без цябе не магу... Вось... Алеся...

— Ай... адпусьці, Міхась... чуеш... Міхась... я зараз закрычу...

— Не магу...

— Мі... і... іхаська... і... і-мі...

— Не... магу...

І шопат ночы, словы ціхія, ускрыкі і абдымкі.

А на небе месячык... і хмаркі бягуць. Вецярок хвалямі празрыстымі набягае, галінкі голыя калыша. Шалясьціць афішкай.

А на ёй надпіс:

„Мікітаў лапаць"...

Магілеў. **Рыгор Нядоля.**

# 11 ліпеня—у вёсцы.

## Матарова.

*(Сьмілавіцкі раён).*

12 ліпеня, у нядзелю, чытальня кішыць комсамольцамі, якія рыхтуюць насьценную газэту. У поўдзень да школы трахкаціць аўтомобіль. Гэта прыехалі прадстаўнікі гораду з яч. Наркамфіна. Праз паўгадзіны сабіраюцца сяляне. Каб дарма не праходзіў час, некаторыя комсамольцы чытаюць газэты і тлумачаць розныя палітычныя падзеі. Потым завялі гутарку аб падатку, пачыталі артыкулы і практычна паказалі як вылічыць свой падатак. Нарэшце т. Чарноў робіць доклад аб міжнародным і ўнутраным становішчы СССР і аб дасягненьнях нашай рэспублікі са дня вызваленьня. Пасьля гэтага пытаньні зацягнуліся да вечера.

Толькі цемната прымусіла разыйсьціся.

**М. Крайко.**

## В. Пліса.

*(Сьмілавіцкі раён, Барысаўшчына).*

У нашай вёсцы сьвята вызваленьня Беларусі ад белапалякаў прайшло, як лепш ня трэба.

Адбылася дэмонстрацыя ў якой прынялі актыўны ўдзел і старыя сяляне. На мітынгу выступалі сяляне і сялянкі.

Адзін селянін сказаў:

— Мы пераканаліся, што мы можам палепшыць сваё жыцьцё толькі пры сав. уладзе, і за яе павінны стаяць, як кажуць, гарою.

Увечары адбыўся спэктакль. Была пастаноўлена п'еса „Бутрым Няміра", а ў канцы—концэртныя нумары.

**М. Красоўскі.**

## Капыль.

*(Случчына).*

Раніца 12 ліпеня...

Вуліцы закрасавалі чырвонымі сьцягамі. Кучамі прыходзілі капыляне да пляцу.

Спачатку адбіліся тры досыць маленькіх, але цікавеньких даклады.

Пасьля—дэмонстрацыя па ўсім Капылі.

Комсамольцы ў дэмонстрацыі прымалі самы актыўны ўдзел. Увесь час зьвінелі комсамольскія песьні.

З дэмонстрацыі ўсе організацыі пашлі ў лес, дзе студэнты Белпэдтэхнікуму прачыталі вусную газэту „Капыльская Праўда", і наладзілі шмат гульняў.

**М. А.**

## Скурацкая ячэйка ЛКСМБ.

*(Сьмілавіцкі раён).*

За тры дні да 11 ліпеня наша бюро яч. зрабіла пасяджэньне, на якім і намеціла плян сьвяткаваньня дню вызваленьня.

Сьвяткавалі мы 12 ліпеня, 11 ліпеня быў працоўны дзень і ўсе былі на сенакосе.

12 ліпеня перад агульным сьвятам наладзілі шырокую чытку газэт. Прысутныя вельмі цікавіліся адносінамі СССР, з аднаго боку, і Ангельшчыны і Польшчы з другога.

Усё сьвята праводзілі на дварэ, што было вельмі цікава і добра.

**Чыкун.**

**Ад рэдакцыі.** Іншыя допісы аб сьвяткаваньні дня вызваленьня, за адсутнічаньнем месца, не надрукованы і ў далейшым друкавацца ня будуць.

# Недахопы ў працы—на мушку.

## Моладзь жыве ў цемры.

**Раваніцкі сельсавет, Меншчына.**

Трэба прызнацца, што ў справе культурна-асьветных пытаньняў у нас зроблена вельмі мала. Моладзь ня ўцягнута ні ў якую працу. Асабліва нічога ня робіцца ў вёсках, дзе большасьць жыхарства—шляхта. Там жывуць пастарому, падаўнейшаму. Моладзь ня мае ні клюбу, ні хаты-чытальні, нават ніякага гуртка.

У такіх вёсках не адчуваецца яшчэ нічога савецкага, комуністычнага.




Рабін: Уй, хаця-б у мяне не панюхаў.

Вячоркі, розныя п'яныя пагулянкі, наведваньне касьцёлу—вось усё тое, што запаўняе вольныя гадзіны ў жыцьці нашай моладзі.

На жаль, у нас нават няма школы для дзяцей беларусаў - каталікоў. Дзякуючы гэтаму дзеці вельмі рана прывыкаюць да курэньня, навучаюцца піць, нават і гнаць самагонку.

Аб піонэрскім атрадзе ніхто ніколі і ня чуў.

Наогул кажучы, наша моладзь жыве старым жыцьцём.

Належным комсамольскім організацыям трэба як найхутчэй узяцца за працу ў такіх вёсках і дапамагчы моладзі выкарабкацца з тэй цемры, якую пакінуў царскі ўрад.

**К. І.**

## Беларусізацыя кульгае.

**Шацкі раён, Меншчына.**

У кожным нумары „Маладога Аратага“ можна прачытаць, што тая ці іншая ячэйка працуе на беларускай мове, а ня так вывучае беларускую мову.

А Шацкая ячэйка аб гэтым і не падумае.

Трэба райкому падумаць і своечасова ўзяцца за працу.

Я думаю, што комсамольцы з вялікаю ахвотаю возьмуцца за вывучэньне роднай сваёй мовы.

**Юнкор Ч. В.**

## Не хацеў быць нашым—дык выкульвайся...

**Хатаўпянская яч., Журавіцкі р., Магілеўшчына.**

У 1924 г. ў нашу ячэйку паступіў нехта Міхалькоў, які ня прымаў ніякага ўдзелу ў працы ячэйкі, а толькі хадзіў на пагулянкі ды „шурымуры“ заводзіў з дзяўчатамі.

Ячэйка некалькі раз казала яму, каб ён справіўся, а ён і вухам не вядзе. А на сёмуху было вясельле ў яго брата, дык ён і ў царкву паехаў.

Убачыўшы, што з яго няма карысьці, комсамольцы сяброўскім словам сказалі: „Ня хочаш быць нашым, дык выкульвайся“...

**Беларус.**

## Чаму нашы сяляне навучаюць сваіх дзяцей.

**В. Аксакаўшчына, Заслаўскі р.**

Большасьць нашых сялян організована ў гурткі: гурток карцёжнікаў і гурток самагоншчыкаў.

Гурток карцёжнікаў, галоўным чынам, займаецца гульнёю ў „Ачко“, вядома, на грошы. Пасьля гульні падымаюцца розныя сваркі і бойкі.



Што робіць аксакавец, бачачы сваю дачку за кніжкаю.

Гурток самагоншчыкаў займаецца зьнішчэньнем самагону пры дапамозе выпіўкі і выганкаю сьвежай.

Усе веды, якія атрымліваюць нашы сяляне ў гэтых гуртках, перадаюцца цалком і без усялякіх зьмен аксакаўскай моладзі.

**Свой.**

# Да барацьбы з пажарамі.

## Пажар—згуба для селяніна.

Самы страшны вораг нашай беларускай вёскі—гэта пажар.

Часам бывае, што селянін, як кажуць, пачне „ў пер'е ўбірацца": маладзіць гаспадарку, пабудуе новы будынак і толькі зьбярэцца жыць палюдзку, як раптам выбухне пажар і сваім чырвоным языком зьліжа ўсё да тла. Прыходзіцца тады гаспадару надзець торбы і пайсьці ў жабракі.

І год-у-год пажар бярэ сабе ў ахвяру вялікі лік сялянскіх гаспадарак.

Падлік кажа, што на Беларусі штогод згарае ад розных прычын да 8.000 сялянскіх двароў. Страты ад гэтых пажараў даходзяць да 2-х мільёнаў рублёў.

У апошнія гады лік пажараў на Беларусі ня зьменшыўся, а нават яшчэ павялічыўся.



Пажарны насос (помпа).

Аб чым-жа гэта нам гаворыць? А аб тым, што наш селянін умее толькі баяцца пажару, а не бараніцца ад яго. Страх пажару ён пакорліва носіць на сваім карку. Змагацца-ж з пажарам ён ня ўмее. А ня ўмее таму, што някультурны ён, цёмны, спрадвеку забіты, што ня ўмее карыстацца кніжкаю.

Ня гледзячы на ўсё гэта, павінны і мы ўзяцца за барацьбу з пажарамі і, як немцы і інш. народы, гэтую барацьбу наладзіць, як найлепш.

## Прычыны пажараў.

Пажары на вёсцы выбухаюць ад розных прычын. Усе іх і пералічыць цяжка, але самыя пашыраныя можна вызначыць.

Як паказвае падлічваньне пажараў, найчасьцей выбухаюць яны ад няспраўных печ і комінаў.

Сяляне найчасьцей выкладаюць свае печы на драўляных падпечках, куды ўзімку заганяюць курэй. Калі ў такой печы чарэн вылажан тонкі, то ад гарачыні ён трэскаецца, у шчыліны завальваецца вугальле, і драўляны падпечак пачынае тлець.

Нямала пажараў выбухае і ад таго, што сяляне неасьцярожна абходзяцца з агнём.

Курцы няўважліва кідаюць на кожным кроку недакуркі, запаленыя сярнічкі, губку і г. д. У хаце пакідаюць блізка каля агню газу, шпігінар і інш.

Ня раз бабы выкідаюць на двор попел і вугальле, ня ўпэўніўшыся, што яно ўжо загасла.

Часта падпалы робяцца знарочыста—па злосьці.

## Способы змаганьня з імі.

З такім нядбайствам трэба на кожным кроку змагацца. Трэба заўсёды тлумачыць, пераконваць несьвядомых, што сьцерагчыся з агнём ня так ужо й цяжка, а гэтая асьцярога можа значна паменшыць лік пажараў. Тых-жа, што ўпарта ня хочуць сьцерагчыся з агнём, прыцягваць да законнай адказнасьці, бо зусім сьмешна было-б, каб ад нядбайнасьці нямногіх руйнавалася гаспадарка працоўнага сялянства і ўсяе краіны.

Пры будаваньні печы найлепей падпечак выкладаць увесь цагляны, а калі й драўляны, то чарэн трэба рабіць тоўсты і высьцілаць яго добрай апаленай цэглай.

Калі коміны простыя, без паваротаў, ня менш чым раз у тыдзень трэба выціраць іх, бо сажа ў коміне лёгка можа загарэцца, іскры пасыплюцца па страсе, і хата на вачох гаспадара пачынае гарэць.

Вясковыя пажарныя дружыны ці пажарныя старасты павінны сачыць за выкананьнем гэтых патрабаваньняў.

Тушыць пажар, калі ён толькі яшчэ пачынаецца, ня цяжка. Трэба толькі запрымеціць яго, пакуль полымя не разгарэлася, не палохацца, а раптам яго заліць, затаптаць, ці якім-небудзь іншым спосабам ня даць агню пашырыцца.

Але калі пажар убачылі позна і полымя пасьпела досыць шырока разгарэцца, то патушыць яго звычайнымі сродкамі нельга. Тут ужо патрэбна організаваная дапамога пажарнай дружыны.

## Як організаваць самаахвотную пажарную дружыну.

У кожнай вёсцы знойдзецца 3-5 комсамольцаў. Вось гэтыя комсамольцы павінны раней уявіць сабе значэньне і справы самаахвотнай пажарнай дружыны, а потым згаварыцца з дапрызыўнікамі, пераменьнікамі, адпускнікамі аб організацыі ў сваёй вёсцы дружыны. Гэтыя хлопцы больш-менш сьвядомыя. Пабачылі яны, як гаруюць вёскі пасьля пажару, і першымі адклікнуцца за захаваньне супакою ў жыцьці сваіх бацькоў.

Аб гэтым трэба пагутарыць на сходзе сялян усяе вёскі, каб яны дапамаглі грашыма на здабыцьцё пажарнае маемасьці.

Калі комсамольцы, разам з іншаю моладзьдзю, атрымаюць згоду сялян на організацыю дружыны і на збор сродкаў, то справу заснаваньня ў вёсцы дружыны трэба аформіць. Для гэтага трэба склікаць агульны (організацыйны) сход моладзі разам з пажылымі сялянамі, дзе заслухаць і прыняць нормальны статут і вызначыць раён чыннасьці дружыны. На гэтым-жа сходзе трэба зарэгістраваць усіх, хто жадае ўступіць у дружыну, абраць начальніка дружыны, яго намесьніка і інш. асоб на

пасады ў дружыне, вызначыць парадак кіраўніцтва справамі дружыны. Усе пастановы сходу павінны быць запісаны ў пратакол. Аб заснаваньні дружыны трэба, не пазьней як праз сем дзён, паведаміць свой райвыканком і паслаць туды копію пратаколу.

Самаахвотныя пажарныя дружыны закладаюцца выключна для змаганьня з пажарамі. Выкарыстоўваць-жа дружыну і яе маемасьць з іншаю мэтаю строга забараняецца.

Для таго, каб дружына зараз-жа ўзялася за працу, трэба зьвярнуцца за дапамогаю да мясцовага страх'агэнта, у райвыканком ці ў акруговы пажарны аддзел. Тут можна атрымаць карысныя парады, а часам і грошай на набыцьцё пажарнай маемасьці.

Пажадана, каб пажарную дружыну мела кожная вёска, але калі тая ці іншая вёска малая, тады можна арганізоўваць дружыну на некалькі суседніх вёсак.

## Падзел сяброў дружыны.

Усе дружыньнікі павінны быць падзелены на наступныя спэцыяльныя групы:

1. *Пампавікі.* Пры кожнай пажарнай помпе (насос) павінны быць дружыньнікі - пампавікі, а з іх ліку вызначаецца адзін рульнік і 2 яго памоцнікі.

Рульнік працуе з руляю, а помоцнікі трымаюць рукаў і перадаюць каманду іншым пампавікам.

2. *Сякернікі.* У сякернікі выбіраюць найбольш дужых, маладых і адважных дружыньнікаў. Яны раскідаюць стрэхі, ломяць платы, разрываюць сьцены і інш. Апрача таго, яны-ж ратуюць людзей, жывёлу і маемасьць з хат, што ўжо гараць.

3. *Вартаўнікі.* Для вартаваньня маемасьці, што сяляне ў часе пажару выносяць з хат, і для ўстанаўленьня парадку на пажары, часьць дружыньнікаў назначаецца вартаўнікамі.

У кожным аддзеле маецца свой староста.

## Навучаньне дружыньнікаў пажарнай справе.

Патушыць разгарэўшыся пажар ня так проста. Для гэтага дружыньнікі павінны загадзя навучыцца гэтай справе.

У некаторых дружынах усё навучаньне зводзіцца да таго, што за лета разоў пару вывезуць машыну, папампуюць ваду, абальлюць дзяцей і разойдуцца. Ясна, што з такога навучаньня ніхто нічога не атрымае.

Заняткі з дружынаю павінны вясьціся, прымерна, вось у якім парадку. Перад вучэньнем з поўгадзіны займаюцца строем. Потым дружыньнікі павінны азнаёміцца з усім пажарным струмантам. Па камандзе начальніка дружына павінна ўмець хутка выехаць з абозам, пралажыць рукавы, узьлезьці на страху і наогул быць спраўным ва ўсіх прыёмах.



Ламальныя кручкі.

Часам практыкуецца прыкладнае тушэньне пажару. Яно хаваецца ў тым, што начальнік камандуе дружыньнікам абтушыць тую хату, якая, вядома, не гарыць. Дружыньнікі паказваюць сваю вёрткасьць і жвавасьць.

Пасьля заняткаў усёю дружынаю выяўляюцца недахопы і дадатнасьці ў толькі што адбыўшыхся практычных занятках. **А. Бараноўскі.**

# Вясковыя пажарныя дружыны.

## Большасьць сяброў дружыны— маладыя хлопцы.

### Дукора, Сьмілавіцкі раён, Меншчына.

Дукорская пажарная дружына—досыць моцная. Яна мае чатыры добрыя і заўсёды гатовыя пажарныя машыны.

Раней дрэнна было з будынінаю для пажарнага струманту, але потым Дукорская комсамольская ячэйка, разам з некаторымі пажарнікамі, папрацавала крыху і пабудавала па Дукорскім пляцы моцную і вялікую будыніну.

Большая частка сяброў дружыны—гэта маладыя хлопцы, з якіх значны процант жыдоўскай моладзі.

Дружына ў вольныя дні робіць практычныя заняткі.

Часьцяком утвараюцца начныя трывогі з мэтай уведаць гатоўнасьць сяброў да нежаданага выпадку—пажару.

Пажарная дружына не абмяжоўваецца тым, што тушыць пажары ў сваёй вёсцы. Яна езьдзіць і ў іншыя вёскі, вёрст за 10-20.

Сяляне з задавальненьнем глядзяць на сваіх сыноў, як яны надзенуць жоўтыя шапкі і ў вольны час займаюцца вывучэньнем пажарнай справы.

**Пажарнік.**

## У нас—шмат горш.

### Кляніцкі сельсавет, Смалявіцкі р.

У пачатку чэрвеня ў нашым сельсавеце была організавана пажарная дружына. Выбралі комітэт дружыны, комітэт разьмеркаваў пасады паміж сваімі сябрамі і на гэтым праца застыла.

А пагроза пажару вісіць над кожным гаспадаром.

Нядаўна ў лясьніка Кляніцкага Кастуся загарэлася гумно, а тушыць і ня было каму, бо дружына сьпіць.

Трэба кляніцкай моладзі падумаць аб гэтым і наладзіць працу пажарнай дружыны.



# Вясёлая старонка.

## Аружжам на сонцы блішчэўшы.

*Чырвонаармейская.*

Аружжам на сонцы блішчэўшы,
Пад гукі благіх трубачоў,
Па нашай зямлі Беларускай
Полк праходзіў чужых панічоў.

К Чарвякову нашы словы,
Мы чакаем твой загад—
У Заходняй Беларусі
Мусіш наш прымаць парад! } *Прыпеў.*

Як прышлі да нас белапалякі,
Дык абяцалі даць нам рай.
І столькі слабод надавалі,
Што хоць проста кладзісь--памірай,
*Прыпеў.*

Як маглі, яны нас абіралі,
Шампаламі стараліся біць.
І гэткім парадкам хацелі
Беларусь да сябе далучыць.
*Прыпеў.*

Беларусь ужо крэсамі звалі,
Бо хацелі, каб ім адышла.
Марылі аб „Польшчы вялікай“,
Каб ад мора да мора была.
*Прыпеў.*

Але-ж гэта ім не ўдалося,
Бо ўжо беларускі мужык
Паном пакарацца ня хоча
І ад панскай апекі адвык.
*Прыпеў.*

Эх, паны нам даліся у знакі,
А бадай-жа іх болей ня знаць,
А паноў дык, напэўна, ніколі
З нас ніхто ўжо ня будзе чакаць.
*Прыпеў.*

І ўсе, калі дружна зьбярэмся
Пад сьцяг КПБ, як адзін,
Дык тады ад паноў адабʻемся
І паном Беларусь не дадзем!
*Прыпеў.*

## Тэрʻармейская.

Маць ў тэрʻармію мяне
выпраўляла,
З разьвітаньнем яна мне
наказала: } 2 разы

— Ты служы, сыночак мой,
верай-праўдай,
Ў сьвеце арміі другой
няма раўнай. } 2 разы

Там навучышся трымаць
ты вінтоўку,
Ўсім буржуям каб задаць
пачастоўку; } 2 разы

Агрономам быць у вёсцы
навучыся,
Каб багата потым ўсе
разжыліся. } 2 разы

І праведай, як жывуць
нашы сёстры
У Заходняй Беларусі,—
ў тых прахвостаў; } 2 разы

Тыдні тры паслужыш там
і да хаты,
Пра Саюз раскажаш нам,
як багаты. } 2 разы

**Жораўскі.**

---

### Сьвет у кут—менш пакут.

Пра Ігната на ўсю вёску
Ўжо пусьцілі пагалоску—
„Ну й багат,
Як Ігнат“.
Хто цялушкамі й быкамі,
А Ігнат дык едакамі—
Што гадок,
То й ядок.
Хоць з іх болей, як тры чвэрці
Пападае ў лапы сьмерці—
Што зіма,
То й няма.
Як пamрэ, Ігнат затое
Адгаблюе разам двое—
Ну й Ігнат!
Лоўкі гад.
І Агата не шманае,
Толькі бога ўспамінае—
Ўсё ў яе
Бог дае.
А я-б нават пабажыўся,
Што бог з ёю не лажыўся—
Ўсё Ігнат
Вінават.
Як хавае, тая маці
Зноў-жа бога вінаваціць:
Як памрэ—
„Бог бярэ“.
Ды няпраўда толькі гэта—
Памыляецца кабета:
Больш дагляд
Вінават,
Бо каб богу былі трэба—
Нарарбіў-бы поўна неба:
Ён-жа спэц
Наш „айцец“...
Так кабета богу й чорту
(Ня ўжывае, бач, аборту),
Ўсёй брыдзе
Навядзе.
Ад вясельля й да магілы
Шмат патраціць дарма сілы—
То пладзі,
То кладзі.
Як у беднай сілы хваціць!?
А каго-ж тут вінаваціць?
Моʻ Ігнат
Вінават?
Ня Ігнат і не Агата—
Цемната тут вінавата:
Сьвет у кут—
Менш пакут.

**Крапіва.**




# Уцёк з турмы.*)

*П'еса ў 3 актах.* )—( *Перарабіў Міх. Калента.*

**Акт трэці:**

Дэкарацыя першага акту. Вечарэе. Нейкі час сцэна пустая, а потым з хаты выходзіць маці Ганулі.

Зьява 1-я.

*Маці (уздыхае).* І што з ёю сталася? Ночку ня спала: перамывала ўсё пялёнкі. Як быццам весялейшая стала. Сёньня цэлы дзень у валасьці прасядзела. Пашпарт, кажа, зачымсьці ёй патрэбен... Ці мо' яна задумала што дрэннае? Прадчувае нядобрае маё сэрца. Няўжо-ж яшчэ што мае здарыцца над нашаю хацінаю? Каму-ж мы што дрэннае зрабілі?... *(За сцэнаю чуваць гоман хлапцоў і дзяўчат).* Вунь ужо з сенажаці варочаюцца. Людзі косяць, жнуць, а ў нас які там няшчасны клінок жыта, дык і тое асыпацца гатова. Эх! *(Накіроўваецца ў хату).*

Зьява 2-я

Хлапцы і дзяўчаты з косамі і граблямі.

*1-я дзяўч.* Цётка, цётка, ваша жыта пара жаць, а то сыпацца пачынае!

*Маці.* А заўтра ўжо зьбіраемся, калі пагода будзе, а то колькі там таго жыта і тое стаіць, брыдка проста.

*2-я дзяўч.* А дзе-ж Гануля, няўжо ў хаце сядзіць?

*Маці.* Не, дзеткі, некуды вышла, ці не ў Марысі толькі. *(Ідзе ў хату).*

*1-ы хлапец.* А вунь ужо і старыя цягнуцца... Дык як, дзяўчаты, можа зьбярэмся пасьля вячэры на Тэкліну прызбу?

*Усе.* А чаму-ж не?!

*2-я дзяўч.* Толькі вось Ганулю трэба пабачыць. Годзі ёй сумаваць ужо.

*Максім (уваходзіць з цыгараю).* Га, добры вечар! Гаротныя сабраліся. Ну, як працавалася? Нябось, крыху ломіць. (*Паказвае на рукі*).

*1-я дзяўч.* А што-ж, думаеш так, як ты! Толькі пахаджвае ды пыхкае сабе пад нос з гэтае зубленіцы. *(Уваходзяць старыя з косамі).*

*Максім* (*да старых*). Ну, як, дзядзькі, шмат палажылі?

*1-ы стары.* А ўжо-ж, палажылі, але толькі нешта вось пахмарвае, ці не зьбярэцца толькі на ноч дождж.

*Максім.* Гэта-ж і я думаю, бо таксама назаўтра касу нарыхтаваў, трэба папрабаваць. (*Старыя закурваюць, некаторыя прысаджваюцца на лаўкі, з імі Максім. Хлапцы і дзяўчаты гутараць аб чымсь паміж сабою).*

*2-і стары.* Але-ж і дрэнна сёлета касіць там у мяне, мокра, проста за калені вада заходзіць, а трава ніштo.

*1-ы стары.* Ну, няхай мы лазілі па вадзе за патрэбаю, але вось скажэце вы мне, гэтым стражнікам што там трэба? Лазяць, брат, па балоце, як чэрці, паўрабляліся, аж страшна на іх паглядзець!

*3-і стары.* Гэ, гэта-ж яны шукаюць там нейкіх зладзеяў, кажуць, ці што.

*1-ы хлап.* Каб вы ведалі, дзядзькі, як учора напалохалі нас гэтыя самыя зладзеі. Такія страшныя, абадраныя.

*1-ы стары.* Дык гэта стражнікі іх, мабыць, і шукаюць?

*1-я дзяўч.* Ну, а няўжо-ж. Мы яшчэ ўчора заявілі старасту і ураднiку.

*2-і стары.* Ат, зловяць яны іх, ня так-та лёгка. Але і адкуль, скажэце, яны маглі ўзяцца тут?

*Максім.* Кажуць, што гэта з тых вязьняў, што вялі праз нашу вёску, паўцякалі тут.

*2-і стары.* А-а, бачыш, дык гэта-ж і нам нядобра. Яшчэ гатовы калі і на вёску прыйсьці.

*Максім.* А чаго табе, дзядзька, баяцца? Думаеш, што яны сядзяць тут яшчэ. Ужо калі ўцяклі з турмы, дык, мабыць, і сьлед іх тут даўно прастыў. Такога дзёру задалі, што толькі дзяржыся. Які-ж дурань, калі ўцёк тут, дык і хавацца тут будзе, ого!

*1-ы стары.* А, што нам баяцца, што яны ў нас возьмуць? Рагулю маю хіба, альбо тваю вунь бясхвостую, дык іх, брат, калі і прыплоціш, дык ніхто ня возьме. Хадзем лепш да хаты, а то зьмяркацца пачынае.

*2-і стары.* Ну, хадзем, Параска, там можа мацеры трэба памагчы.

*Параска* (*1-я дзяўчына*). Іду, іду, татка, зараз. *(Старыя ідуць).*

---

*) Гл. „Малады Араты“ № 7.

*1-я дзяўч.* Ну, хадзем, дзяўчаткі, а то маці там недзе злуецца. Трэба сьвіньням даць яшчэ, а там можа і зьбярэмся дзе.

*Усе.* А праўда, пара. (*Ідуць, за імі хлапцы. Сцэна пустая*).

Зьява 3-я.

*Ганулям* (*крадзецца. У руках нясе торбу з нечым хавае яе за хатаю*). Усё, здаецца, гатова. Харчоў дзён на пяць таксама хопіць. Вось толькі ўзяць Сідорку, а там... Але маці шкада. З кім яна застанецца?.. Можа Максім калі паможа?.. А яна нічога яшчэ ня ведае і неяк гаворыць усьцішна... Але... Усё скончана... позна разважаць... Праз некалькі гадзін мы будзем далёка адгэтуль, а тады... (*Закрывае твар рукамі, хоча плакаць, накіроўваецца ў хату. Уваходзіць Зьміцер*).

Зьява 4-я.

Гануля і Зьміцер.

*Зьміцер.* Гануля, пастой, ты хочаш, каб я цябе больш ня бачыў ніколі? Я чуў усю тваю размову з Сьцяпанам і ведаю, што ты мерышся цяпер зрабіць.

*Гануля* (*горда*). Ну, дык што-ж, калі ты чуў, калі ты ведаеш?

*Зьміцер.* Гануля, раздумайся ты ўрэшце. Што скажа твая маці, што падумае вёска? Цябе-ж лічаць усе самаю сталаю дзяўчынаю.

*Гануля.* Гэта мне ня першы раз чуць ад цябе. Што больш скажаш?

*Зьміцер.* Слухай, кінь злаваць, паслухай мяне. Няўжо табе лепш будзе бадзяцца па чужых людзях з гэтым катаржнікам?..

*Гануля.* Маўчы, ты ня можаш абражаць яго. Калі Сьцяпан катаржнік, дык праз цябе. На гэтым з табою размова ў мяне скончана. (*Хоча ісьці ў хату*).

*Зьміцер* (*хапае яе за руку*). Гануля, пачакай, падумай, што ты хочаш зрабіць са мною?.. (*Гануля вырываецца і йдзе ў хату*).

*Зьміцер* (*паглядае ўсьлед, злосна*). Дык не-ж, патвойму ня будзе. З маіх рук надта цяжка вырвацца. Гм... уцячы далей ад гэтага месца... Не, галубка. Ня выйсьці табе з гэтага двара і ня бачыць болей твайго ненагляднага Сьцяпана... (*Злосна, іронічна*). На гэтым у мяне размова скончана. Так, скончана. (*Думае*). А Марыся ашалее зараз, мабыць. Ужо ня сьпіць па начах, а ўсё глядзіць, што я раблю. Эх, дурная дзяўчына. (*Ідзе, яму насустрэчу —Марыся*).

Зьява 5-я.

Зьміцер і Марыся.

*Марыся.* А-а, ты ўсё тут, а цябе нешта татка мой кліча, хоча аб чымсьці пагутарыць з табою. (*Глядзіць яму ў вочы*).

*Зьміцер* (*адыходзіць ад Марысі і абводзіць яе сур'ёзным поглядам*). Аб чым-жа гэта ён надумаўся гутарыць са мною, ня ведаеш?

*Марыся* (*падыходзіць ізноў да яго, весела*). Не, ня ведаю, толькі прасіў, каб ты зашоў. (*Хітра*). Можа аб заўтрашняй касьбе?

*Зьміцер* (*сурова*). Ня ведаеш... аб касьбе... Ну, і ўмееш-жа ты аднак падыходзіць да чалавека, а вось я гэтага й ня ведаў. Дык скажы твайму татку і мамцы, калі хочаш, што позна ён задумаў касіць—ужо пасохла... (*Хоча ісьці*).

*Марыся* (*даганяе*). Зьміцер, пастой. (*Ласкава*). Няпраўда, татка мой цябе ня клікаў; я сама проста хацела, каб ты зашоў да нас, правёў вечарынку... (*Бярэ за руку, глядзіць у вочы*). Няўжо ты ня хочаш і бачыць болей мяне, гаварыць са мною?

*Зьміцер* (*бярэ ад яе руку*). Хоць ты і не малая, а ўсё такі дурная. Ну чаго ты чапляешся чалавеку на шыю? Уздумала калі ўспамінаць, што было два гады таму назад. Забудзь ужо, мінула. Бывай здарова! (*Ідзе*).

*Марыся* (*паглядае ўсьлед*). Ну і што з ім сталася? Зусім зьмяніўся хлапец. Эх, доля мая няшчасная. І што тут, здаецца, можа перашкаджаць нам зыйсьціся і жыць так, як людзі. А яшчэ заручыліся... А я спадзявалася, чакала. Праўду кажа ён, што дурань я, ды яшчэ які... (*Скрыпнулі хатнія дзьверы, выходзіць Гануля*).

Зьява 6-я.

Марыся і Гануля.

*Марыся.* А-а, Ганначка, дык ты ў хаце? А дзе ты сёньня цэлы дзень была? Ня відаць нешта цябе.

*Гануля* (*нездаволена*). А дзе-ж мне быць, вось Сідоркіну бялізну трохі агледзела і самога выкупала, а нядаўна Зьміцер быў...

*Марыся.* Зьміцер?.. Скажы, галубачка, што з ім такое? Такі сярдзіты, неспакойны, усё крычыць...

*Гануля* (*сьмехам*). Табе-ж лепш трэба ведаць, як мне, ты-ж амаль што ня жонка яго.

*Марыся.* Няўжо-ж, жонка, толькі што жонка... Ён і глядзець на мяне чамусьці ня хоча. А нядаўна тут я спаткалася з ім, дык, думаеш, галубка, абазваў мяне дурною і пашоў, вось табе і жонка!..

*Гануля.* Папраўдзе скажу, сястрыца, табе даўно пара выкінуць яго з галавы—гэта не чалавек, а зьвер, і цябе ён зусім не кахае, дарма ты думаеш аб ім, ён ня варты гэтага.

*Марыся.* Галубка, чаму ты дрэнна гаворыш пра яго? Зьміцер-жа хлапец добры, толькі вось у апошні час нешта зьмяніўся, засумаваў, дык гэта-ж з кожным бывае. (*З вакна голас маткі:* „Ганна, ідзі, вунь нешта Сідорка плача").

*Гануля* (*у бок хаты*). Іду, іду, мама! (*Да Марысі*). Як сабе хочаш, сястрыца, а я яго цярпець не магу. Апрацівеў ён мне, як ніхто. Ну, бывай, пайду ў хату. (*Ідзе*).

*Марыся* (*пастаяўшы*). Эх, жыцьцё, жыцьцё, чаму ты смуткам перапоўнена? (*Ідзе*).

Зьява 7-я.

Маці і Максім.

*Маці* (*выходзіць з хаты*). Эх, як душна ў хаце, ды й на двары таксама. Дзіва, што жыта перасьпее.

*Максім* (*ідзе па вуліцы*). Добры вечар, цётка! Што, прахаладзіцца трохі вышлі?

*Маці.* Якое там прахаладзіцца, вось трэба-ж жняю пашукаць назаўтра, а вашы што, пачалі ўжо?

*Максім.* А таксама заўтра зьбіраюцца. А Гануля хіба ня пойдзе пажынаць трохі?

*Маці.* Чаму не, пойдзе й яна, але-ж хочацца заўтра й кончыць, бо сыпацца пачынае, кажуць.

*Максім.* А, так, гэтыя дні прыпякае здарова, ну, бывайце. (*Пашоў далей, а старая ў другі бок*).

Зьява 8-я.

Сцэна пустая. Далёка чуваць сьпевы „Што й за месяц, што за ясны“. Па вуліцы ідуць 2-4 хлапцы ў той бок, дзе пяюць. У двор заглядаюць стражнікі, але зараз-жа хаваюцца.

*Ганулья* (*выходзіць з хаты, слухае*). Пяюць... Дзень працавалі, а вечарам весяляцца. Эх, бесклапотны наш народ... Ну, але-ж пара, а то зараз маці вернецца. Прыдзецца Сідорку соннага несьці. (*У бок, дзе пяюць*). Ну, дзяўчаткі, сьпявайце, весяліцеся, а мне болей там ня быць, мабыць, ніколі (*Ідзе ў хату*).

*Сьцяпан* (*крадзецца з-за хаты*). Няўжо-ж усё скончана?.. Зараз прыдуць, мабыць, сюды. Эх, узнасіліся, як зьвяры. (*Накіроўваецца ў хату. Насустрэчу выходзіць Гануля з Сідоркам і клункамі*).

*Гануля* (*спалохана*). Сьцяпан, ты тут?..

*Сьцяпан*. Мяне шукаюць, бегаюць па сьлядох. Трэба пачакаць трохі ў хаце. Ці ёсьць там хто?

*Гануля*. Не, няма нікога. (*Ідуць аглядаючыся ў хату*).

Зьява 9-я.

Зьміцер,ураднік, стараста крадуцца з-за вуглоў.

*Зьміцер* (*выходзіць на сцэну*). Так, ён, здаецца, накіраваўся сюды. Ці ня ў хаце толькі? Ну, ты ў маіх руках, галубок, скончана твая пропаведзь. (*Выходзіць на вуліцу, махае рукою*). Сюды, сюды. (*Прыходзяць стражнікі*) Ён тут... у хаце.

(*Ураднік дастае рэвальвэр. Накіроўваецца ў хату, да стражнікаў:* „За мной, ребята!“... *Стражнікі бяруць у рукі рэвальвэры і ўсе ідуць у хату; у хаце Гануля крычыць.—Людзі, ратуйце... Гоман стражнікаў і ўрадніка. Выходзіць стараста. Стражнікі выводзяць Сьцяпана і Ганулю з дзіцем. Ззаду—ураднік. Гануля плача. З вуліцы заглядаюць хлапцы. Сходзіцца народ).*

*Ураднік* (*да стражніка*). Ее можно отпустить, а тебя (*паказвае на Сьцяпана*) мы и искали (*Сьцяпан крывіцца*).

*Стараста* (*да Сьцяпана*). Ну, што-ж, галубок, папаўся? Не хацеў адбываць заслужанае кары?.. Хавацца ў лесе ўздумаў, грабіць людзей, ого...

*Сьцяпан* (*праз зубы*). Эх, грабіць людзей... (*Да народу*). Браткі, хто грабіць людзей, хто апошнюю каплю крыві выціскае з працоўнага народу?.. (*Паказвае на старасту і ўрадніка*). Вось хто, вось нашы грабіцелі.

*Народ* (*зьдзіўлена*). А-а-а, што ён гаворыць? (*Бабы хрысьцяцца*).

*Сьцяпан* (*з запалам*). На чыім карку яны жывуць?.. Вось такіх працоўных, як вы, ціснуць, жмуць і пісьнуць не даюць. Абараняюць яны багатыроў, памешчыкаў, якія таксама зьдзекуюцца над вамі.

*Стараста*. Людзі, чуеце! Забіў чалавека, каля якога жывіліся дзесяткі такіх, як вы, і ён яшчэ апраўдваецца. (*Да Сьцяпана*). Ух, душагуб ты, забойца. Згніеш у вастрозе праз свой язык.

*Ураднік*. (*да стражнікаў*). Бярыце яго. Даволі!

*Гануля* (*кідаецца да Сьцяпана*). Не, і мяне разам з ім! Я тут болей не застануся. Мой дарагі Сьцяпан... (*Плача*).

*Маці* (*вылязае з народу*). Ай, дзеткі мае. (*Абнімае іх. Паказваецца Зьміцер*).

*Сьцяпан*. Мама... (*Цалуе руку*). Выбачце мяне, я ня ў чым не вінават. (*Убачыўшы Зьмітра, паказвае на яго*). Во, во хто прадаў, во хто згубіў. (*Зьміцер моўчкі сунецца ў талпу. Усе паглядаюць на яго й адварочваюцца*).

*1-ы страж*. Ваше благородие, прикажете связать этаго бунтовщика?

*Ураднік*. Гм, еще вязать, он и так не убежит. Не в те руки попался, голубчик. Ну, пошли. (*Стражнік цягне Сьцяпана*).

*Сьцяпан* (*да ўрадніка*). Так цяпер я ваш, але прыдзе час і вось гэты народ з вамі расправіцца.

*1-ы страж*. (*да людзей махаючы шабляю*). Разойдитесь, чего собрались. (*Народ раступаецца. Паволі. За Сьцяпанам ідзе Гануля з дзіцем і маці. Плачуць. Ззаду ураднік, стараста. Усе маўчаць*).

ЗАСЛОНА.

Канец.



# Увага да пастаноўкі.

Некаторыя вясковы драматычныя гурткі, прагледзеўшы склад асоб п'есы, могуць спалохацца іх вялікім лікам, а таксама і тым, што вясковая сцэна не прыстасавана да таго, каб умясьціць такую граmаду. Лічу неабходным папярэдзіць, што:

1. Пры ўсіх пастаноўках можна абмежавацца толькі 16-ці асобамі. Хор і народ можна адкінуць зусім, бо калі ёсьць хор, дык няма народу, і наадварот, значыць адны і тыя-ж асобы ў п'есе могуць выконваць 2 ролі.

2. **Першы і другі старыя**, што ў другім акце выходзяць разам з стражнікамі, у трэцім акце могуць іграць касцоў, разумеецца, з другім грымам. У другім акце яны павінны быць у ролях кулакоў, а ў трэцім—звычайных сялян—беднякоў.

3. У крайнім выпадку можна зусім выкінуць ролю **Марысі**—таварышкі Ганулі.

4. За сцэнай сьпевы выконваюць тыя-ж асобы, што і на сцэне.

Але больш, рузумеецца, рознастойнасьці і прыгожасьці было-б, каб усюды, апрача сьпеваў за сцэнаю, былі розныя асобы.

**Міх. Калента.**

# Вясковая моладзь—пра сваю часопісь.

### А чым яшчэ трэба пісаць у „М. Ар“.
*Думкі юнкора.*

Праглядаючы старонкі нашае часопісі „Малады Араты“, мне прышлося заўважыць, што ў ім мала адбіваецца вельмі важнае пытаньне вясковага жыцьця—гэта правядзеньне беларусізацыі на мясцох і наогул наша нацыянальная політыка.

Нікому не навіна, што мы цяпер трымаем курс на вывучэньне беларускае мовы. Ня гледзячы на гэта, такі момант не знашоў сабе месца на старонках комсамольскай часопісі.

Мы бачым, як шпарка растуць вясковыя організацыі: комсамол, ячэйкі Мопру, П. Н., коопэратывы, комітэты ўзаемадапамогі і г. д.

Ячэйка Л. К. С. М. Б тут павінна быць першым штурхачом у беларусізацыі нашых установ. Комсамолу вёскі, як яе перадавой частцы, трэба цьвёрда праводзіць у процэс свае заўсягдашняе працы тую мову, на якой гаворыць сялянства, сярод якога жыве наша Ленінская організацыя. Кожны даклад, кожны спэктакль, вусную, насьценную газэту трэба імкнуцца будаваць на мове, зразумелай масам.

А дзеля гэтага кожнаму юнкору трэба пісаць у сваю часопісь і поўнасьцю высьвятляць усе тыя дасягненьні, якія відаць у гэтай галіне працы.

На старонках нашага журналу мы, вясковыя комсамольцы, павінны дзяліцца тымі навыкамі, якія набыты ў процэсе працы, і тымі перашкодамі, што сустракаліся на гэтым шляху, каб кожны мог вопыт мінулага прыстасаваць к далейшаму правядзеньню раз намечаных мэты.

**М. Крайка.**

### Цікавімся „Маладым Арат.“.
*Рудзенская яч., Меншчына.*

Комсамольцы Рудзенскай ячэйкі вельмі цікавяцца „Маладым Аратым“. Яны з захапленьнем чакаюць таго дня, калі атрымае ячэйка гэту цікавую, на роднай мове, часопісь.

Гэта часопісь дае шмат чаго комсамольцам.

Кепска адно, што многія вёскі яе ня выпісваюць, і моладзь ня чытае.

Трэба выканаць лёзунг: „Кожная сялянская хата павінна выпісваць „Малады Араты“.

**Зюк.**

### Пажаданьне сваёй часопісі.
*Капыль, Случчына.*

Я рэгулярна выпісваю і чытаю комсамольскую часопісь „Малады Араты“. Прачытаўшы—даю другім чытаць. Хлапцы—комсамольцы і піонэры—вельмі ім цікавяцца. Ды як ня цікавіцца, калі ён вельмі прыгожы, зразумела напісаны.

Так пажадаем „Мал. Ар.“, каб ён быў у кожнай сялянскай хаце. Каб яго чытала ня толькі моладзь, а й старыя сяляне.

М. А.

### Вышаў „Мал. Араты“.

Прачытаў узяў Антось.
Ой, ды надта-ж ён багаты:
Усё тут знойдзеш, ўсё тут ёсьць!
Толькі трэба ўзяць у рукі,
Прыглядзецца к тым радкам—
Атрымаеш шмат навукі,
А пасьля напішаш сам.

**Малевіч А.**

### Падпісныя.

Ах вы хлопцы-комсамольцы,
Я хачу адно сказаць,
Каб жыла наша часопісь—
Яе трэба падтрымаць.

Перш за ўсё трэба дабіцца,
Каб выпісваў стар і мал,
Але гэтага шчэ мала,—
Даваць трэба матар'ял.

Дык вясковая ячэйка
За справу гэтую вязьміс.
Выпіш „Малады Араты“—
З яго добрая карысьць

Ён навучыць селяніна,
Як зямлю апрацаваць,
Каб палепшыць сваю долю,—
Збожжа добрага нажаць.

Кінь піць, Сідар, самагонку,
Прапіваць астатні грош.
У адзін голас закрычыма—
Нам „Аратага“ даеш!

**Ю. Холад.**

## Паштовая скрынка.

**М. Крайку** (Матарова)—Іншы матар'ял скарыстаем у наступных нумарох.

**М. Багушэвіч** (Чырвона-Слабадзкі раён)—Твой допіс „Мал. Ар.“—наша родная часопісь“ друкуем. Другі допіс „Коопэрацыя расьце, шырыцца і мацнее“ зьмясьцім тады, калі будзе друкавацца аддзел „Коопэрацыя“. За атрыманыя грошы рэдакцыя выпісала табе на жнівень-кастрычнік „Мал. Араты“. Пішы аб карыстаньні моладзьдзю вашай вёскі гэтага лета ў сэнсе спортвыхаваньня.

**Чужы** (Астр.-Гарадок)—„Калі наладзім працу?“—друкавацца ня будзе. Ты спачатку пішаш, што ячэйка вельмі маленькая, прытым і маладзенькая, дзякуючы чаму і не вядзецца добрая праца. А потым, ні адсюль, ні адтуль, крычыш, каб ячэйка зразу „акомсамоліла“ ўсю вёску. Без пары нічога ня бывае. Пішы нам аб ленінскім выхаваньні вашай ячэйкі, аб тых перашкодах, якія мяшаюць вашаму росту і інш.

**М. Дрэйцар** (Халопіна)—„Здача ўрачыстага абяцаньня піонэрамі“, „Раённы піонэрскі збор“ перасланы ў дзіцячую часопісь „Беларускі Піонэр“. Допісы твае добрыя, але „Мал. Ар.“ сам па сабе—малы і ня можа, пры ўсім сваім жаданьні, зьмяшчаць допісы з піонэр. жыцьця.

Пішы наогул аб жыцьці вашай моладзі—залічым юнкорам „М. Ар.“

**Комсамолец Ч. В.** (Шацк)—Твае строчкі, як напрыклад: „Рады хлопцы, што атрымалі доўга чаканыя комсамольскія білеты і ўвесь час сходу *ня слухалі*, а трымалі і глядзелі на новыя білеты“—нічога нікому не дадуць. Допіс аб „білетах“ ня пойдзе.

**Рыгор Жлобіч**—У артыкуле „Ячэйка ўзрасла“ ёсьць лік „400“, а куды гэты лік аднесьці, ці да вашай ячэйкі, ці да цэлага раёну—рэдакцыя ня ведае. Напішы, брат, лепш.

**Комсамолец Ч. К.** (Шацк)—Рэдакцыя лічыць, што 40 сяброў у ячэйцы—гэта самы добры лік для працы, а ты хочаш, каб яе разьдзяліць на дзьве. Допіс ня пойдзе.

**Зэшка Бірала** (Рудзенск)—„Робім сувязь з беспартыйнаю моладзьдзю“ пойдзе ў адным з чарговых нумароў.

**Нашым поэтам**—Наконт прысланых вамі вершаў і апавяданьняў пагутарым у чарговым нумары.

Рэдактары: { **А. Самахвалаў.** **Іл. Барашка.**

1-я дзярж. друк. Зак. № 3612. Галоўлітбел № 11369.

# КАЛЯСЬНІЦА „ІЛЬЛІ ПРАРОКА“.

Блісьне маланка, загрыміць гром, а старыя бабы ды й наогул людзі, веруючыя ў бога, перахрысьцяцца і скажуць: „Ільля прарок“ катаецца. Адкуль-жа ўзялася гэта казка аб „Ільлі?“

Вядома, з тых-жа самых рэлігійных навучэньняў і кніжак. У царкоўнай біблії ёсьць апавяданьне пра Ільлю прарока і пра прарока Алісея, якія ішлі па дарозе і гаварылі між сабою. Ільля кажа Алісею:

— Прасі, што зрабіць табе, пакуль я яшчэ з табою.

І сказаў Алісей:

— Дух, які на табе, хай будзе на мне ў два разы большым.

— Цяжкога ты просіш,—адказаў Ільля.—Але калі ўбачыш, як мяне неба возьме ад цябе, дык тваё жаданьне споўніцца, а калі ня ўбачыш—дык не.

Раптам зьявілася калясьніца вогненная і коні вогненныя, і Ільля папёр на неба.

Біблія, вядомая рэч, кніга ад бога і хлусіць ня стане. Калі напісана—значыцца трэба верыць. І больш цёмныя людзі вераць у Ільлю аж па сёнешні дзень.

Зразумела, усё гэта—ерундзісьціна. Ні бога, ні чорта і ні прарока Ільлі на хмарах няма і быць ня можа. А ёсьць такая сіла прыроды—электрычнасьць, якая ў час буры і дажджу носіцца ў паветры і хмарах. І калі дзьве хмары прыблізяцца адна да другой, то гэта электрычнасьць стараецца злучыцца паміж сабою, ці з аднае хмары пераскочыць на другую, а то часьцей за ўсё яна хоча зусім пайсьці ў зямлю. Калі электрычнасьць пераходзіць з аднае хмары на другую, то яна пры гэтым утварае вялікае хваляваньне паветра, якое даходзіць да нашага вуха ў форме моцнай страляніны. Гэта і ёсьць тое, што мы называем *громам*. Часта электрычнасьць уходзіць у зямлю доўгім асьляпіцельна-вогненым пасам,—гэта нішто іншае, як тая самая *маланка*.

Што ў хмарах і паветры ёсьць электрычнасьць—добра дасьледваў вучоны Франклін пры дапамозе вопыту.

Ён зрабіў з шаўковай хусткі зьмяю: на верхнім канцы зьмяі ён прымацаваў вострыя дроцікі, да вяроўкі, на якой зьмяя пушчаецца, ён унізе прывязаў шаўковы шнурок, каб сьмела можна было трымаць зьмяю, бо праз шоўк электрычнасьць не праходзіць, а ў тым месцы, дзе прывязан шоўк да вяроўкі, Франклін прычапіў жалезны ключ.

Такую зьмяю Франклін пусьціў у час навальніцы ў паветра і калі дакрануўся пальцам да ключа, то з яго з невялічкім трэскам выляталі іскры. Гэта й былі электрычныя іскры, якія астрыём дроту на зьмяі лавіліся ў хмарах і па вяроўцы пасылаліся да ключа.

На гэтым вопыце і заснавана пабудова громаадводаў.

Громаадвод складаецца з меднай вострай палкі аршына паўтара ўдоўжкі, ад якога праводзіцца ў зямлю жалезны дрот. Там, дзе ёсьць громаадвод, стукне маланка, бо электрычнасьць пабяжыць у зямлю бяз усякага стуку.

Дзякуючы таму, што пабудова громаадводу вельмі простая, яго зрабіць, пры жаданьні, можа кожны.

Зараз электрычнасьць вывучылі вельмі добра, і на падставе гэтага людзі здолелі скарыстаць яе, як сілу, якая замяняе нават сялянскіх коняй.

Вазьмеце, напрыклад, гарады, заводы, фабрыкі, тэлеграф і г. д.,—усюды вы ўбачыце, як электрычнасьць служыць чалавеку: дае сьвятло, прыводзіць у рух трамвай і машыны, на дзесяткі тысяч вёрст перадае весткі і інш.

Ва ўсім сьвеце будуюцца вялізарныя электрычныя станцыі, якія даюць электрычную сілу на цэлую вобласьць.

На зьмену пару ідзе электрычнасьць, прыбліжаецца век электрычнасьці, які прыстасуе электрычную сілу да ўсяе гаспадаркі, усяго жыцьця.

Вось чаго дабілася навука і тэхніка. *Яна сьцягнула прарока Ільлю з неба і прымусіла яго служыць людзям.*

У нас, у СССР, аднэй з галоўнейшых задач савецкага будаўніцтва зьяўляецца электрыфікацыя Саюзу Рэспублік. Зараз у нас будуюцца, а некаторыя ўжо пабудаваліся, аграмадныя электрычныя станцыі. Яны, як, напрыклад, „Волховстрой“, будуць даваць энэргію вялікім раёнам.

„Волховстрой“ будзе рухаць усю прамысловасьць Ленінграду.

Пабудоўка такіх вялікіх станцый будзе ўвесь час пашырацца і з цягам часу ня толькі прамысловасьць і горад будуць жыць электрычнасьцю, але і ўся сельская гаспадарка будзе электрыфіцыравана. Будзе час, калі конь і паравая машына стануць для нас зусім лішнімі.

---

# Зьмест:

# Значна зьніжаны цэны!

## АБВЕСТКА.

Цэнтральны Сельска-Гаспадарчы Склад пры Наркамзему БССР у Менску і ўва ўсіх яго аддзяленьнях: у Полацку, Віцебску, Магілеве, Воршы, Барысаве, Рагачове, Слуцку, Бабруйску, Мазыру і Клімавічах робіць прадажу сельска-гаспадарчых машын і арудзій вытворчасьці Белдзяржмэтпрому і саюзных заводаў **ПА ЗНАЧНА ЗЬНІЖАНАЙ ВАРТАСЬЦІ.**

Коопэрацыйным аб'яднаньням і сялянам, якія маюць спраўку ад Сельсавету аб сваім маемасным становішчы, Цэнтраземсклад адпушчае машыны з уплатаю ў рассрочку на 3, 6 і 9 месяцаў, прычым пры пакупцы трэба плаціць толькі 25% прадажнай вартасьці ніжэйвыдрукаванага прэйс-куранту.

| НАЗОВА АРУДЗІЙ і МАШЫН | Адпускная вартасьць | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Нізавой коопэрацыі франко-склад | | Розьнічная вартасьць | |
| | Руб. | К. | Руб. | К. |
| Плуг п/т Сухені № 0 | 8 | 57 | 9 | 05 |
| „ „ „ № 1 | 9 | 95 | 10 | 50 |
| „ „ „ № 2 | 12 | 44 | 13 | 10 |
| „ „ Фэнікса 5В | 9 | 12 | 9 | 60 |
| „ „ „ 6В | 10 | 22 | 10 | 80 |
| „ „ Швэдзкі 14В | 17 | 68 | 18 | 65 |
| „ „ Лінгарта 5А | 6 | 63 | 7 | — |
| Малатарня п/т Ланца Л2 | 94 | — | 99 | — |
| „ „ б. Эльворта Б23 с/с | 215 | — | 222 | 50 |
| Конныя прыводы п/т Клейтона | 110 | — | 116 | 50 |
| „ „ „ Ланца 02 | 127 | 10 | 134 | — |
| Веялка п/т Ауля № 1 з 9 сітамі | 46 | 40 | 49 | — |
| Саломарэзкі п/т Бенталя ССХ з гірай | 39 | 75 | 42 | — |
| Жняярка-самаскідка з перадком | 197 | — | 207 | 50 |

Дырэктар-распарадчык Талапіло.